# СЛОВА З НАГОДЫ
*(Замест прадмовы)*

Сёння, як я пераканаўся, пісаць прадмовы, асабліва тым, з кім звязана паўстагоддзя жыцця, ужо не ўмею, няздольны. Яшчэ ўчора, здаецца, умеў, а сёння ўжо не. Ці не таму, што сёння мяне больш займае не само, як казалі, прыгожае пісьменства, а тое, адкуль у яго ногі ды рукі растуць.

Не спадзяюся на нейкі пэўны адказ. Бо на кожнай думцы, на кожным кроку губляю клёпкі і спатыкаюся аб іх, як, пэўна, сам спатыкальны наш абсурдна-фантасмагарычны час...

Колісь была літаратура: старажытная, сярэднявечная, рэалістычная і нават сацыялістычна-рэалістычная — так, прывязаная, цалкам прыпнутая да патрэб свайго часу. Але і да чалавека ў тым часе, да яго планетарнай існасці і сутнасці.

Творца яшчэ верыў і спадзяваўся, бачыў святло ў канцы тунэля, бачыў сэнс у сваім існаванні. Святло і сэнс, якія сёння ўжо пахаваны ў нашых раскіданых па ўсёй краіне кладах пад крыжамі і без. І таму мы маем, што маем. Замест культуры — культ бясконцых садомападобных шоу, сексу, забойстваў, гвалту... Разліванае мора чалавечай крыві... Усё асвечанае вякамі па нейкім д'ябальскім загадзе пайшло пад нож, сякеру, ядзерную навалу, ужо пачало смярдзець, пляваць у вочы космасу, сусвету. І на чым толькі душа трымаецца?! Але ўсё ж трымаецца, што найбольш дзіўна. Як трава, прабіваецца скрозь асфальт і бетон.

Якраз прыкладам гэтаму можа служыць і кніга Сяргея Ваганава. Ён пачаў публічную літаратурна-мастацкую творчасць, асабліва ў паэзіі і эсэістыцы, а другой палове жыцця. Позна? Але што лічыць нашым беларускім рана ці позна? Калі танчаць уваччу літаркі, калі рэжацца словам горла, калі іскра божая не падманная, як ні адбівайся, рана ці позна, ты прыгавораны ўсё ж здацца. Здацца таму, што ў табе і над табой. На маю думку, мы ўвогуле запознена былыя людзі з непраходнай жарсцю няздзейсненай

творчасці, з нашай адвечнай беларускай бядой — двухмоўем, так званым білінгвізмам, з нашым сумам страчанай матчынай мовы.

Тое ж можна сказаць і пра мастацкія творы лепшых нашых творцаў, што захавалі сябе ў культава-людажэрным стагоддзі. Ён, гэты сум, быў уласцівы і Сяргею Ваганаву, нават тады, калі першыя вершы на рускай мове былі абазваны пераймальнымі ад Пастарнака, Мандэльштама... — і яшчэ даў бы Бог кожнаму каго. Але за ім ужо стаяла нашчадная біяграфія вялікай беларуска-яўрэйскай сям'і, якая прайшла праз усе ламоты XX стагоддзя. Бунтоўнасць і замілаванне словам нашчадныя ў Сяргея Ваганава, прыроджана-каранёвыя. Не ведаю, як доўга ён верыў прысуду аб другаснасці яго паэзіі. Але... Але ехаў з жонкай і сябрамі ў лес па грыбы ці ягады, браў з сабой пішмашынку і на пяньку выдрукоўваў: «Сосновый лес берёзами просвечен...»

Я не буду спыняцца на нечым канкрэтным з чарговай кніжкі Ваганава, бо не хачу быць пераказальнікам яго твора. А яна, нягледзячы на разнастайнасць жанраў — вершы, мініяцюры, нарысы, эсэ, — менавіта адзін твор, які ўвабраў у сябе шматгадовы журналісцкі і жыццёвы досвед аўтара. І гэты твор перад вамі.

Разам са словам сябра з нагоды...

*Віктар КАЗЬКО*